Фёдар ПІСКУНОЎ

# *ДУБА ЦІ ДУБУ?*

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ФОРМЫ РОДНАГА СКЛОНУ НАЗОЎНІКАЎ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ Ў СВЯТЛЕ КАМП'ЮТЭРНА-ЛІНГВІСТЫЧНАГА АНАЛІЗУ

Варыянты канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку традыцыйна вызначаюцца ў рамках аднясення адпаведных назоўнікаў да пэўных семантычных груп [1]. Некаторы час існаваў у нейкім сэнсе ліберальны падыход да выбару паміж формамі *-а* (*-я*) і *-у* (*-ю*), што зыходзіў з усведамлення класіфікацыйных праблем. Так, Я. Лёсік, які першым даў дэталізаваны варыянт класіфікацыйна-групавога падзелу назоўнікаў [2], звярнуў увагу на раўназначнае ўжыванне канчаткаў *-а*, *-у* ў шэрагу слоў (*з плота – з плоту, з моста – з мосту, з дома – з дому*) і канстатаваў: "Пакуль нельга даць цвёрдага правіла, якое б дакладна паказвала, якія назоўнікі маюць у родным склоне канчатак *-а*, а якія – *-у*, і, відаць, ***не будзе памылкі, калі ў некаторых няпэўных выпадках ужыць канчатак*** (вылучана намі. – ***Ф. П.***) *-а* ці *-у*, напр.: *правапіса – правапісу, камітэта – камітэту, летапіса – летапісу*…" Аналагічнае меркаванне выказаў і граматыст А. Багдановіч [3]: "…правесці пэўныя межы паміж словамі, якія прымаюць канчатак *-а* (*-я*), а якія *-у* (*-ю*), ***немагчыма*** (вылучана намі. – ***Ф. П.***)" – і далей: "…падзел назоўнікаў на групы з канчаткамі *-а* і *-у* не зусім дакладны і толькі больш-менш адпавядае сапраўднасці". Ускосную падтрымку гэтая пазіцыя пазней знайшла і ў найгрунтоўнейшым манаграфічным даследаванні прафесара М. Жыдовіч: "…у беларускай мове назіраецца паралельнае ўжыванне канчаткаў *-у* і *-а*… пачынаючы ад самай старажытнай пары і да нашага часу. Даныя сучаснай беларускай мовы сведчаць, што разглядаемы працэс з'яўляецца жывым працэсам і цяпер" [4].

Пачынаючы з першых акадэмічных выданняў арфаграфічнага слоўніка ў 1948 г., руска-беларускага [5] і беларуска-рускага [6] слоўнікаў быў дадзены старт традыцыі адлюстравання канчаткаў роднага склону *-а* / *-у* як граматычных паказчыкаў у перакладных і арфаграфічных слоўніках. Праблема варыянтнасці канчаткаў была фактычна пераведзена ў слоўнікавую плоскасць. Тым самым карыстальнікі ўсіх узроўняў моўнай падрыхтоўкі былі фактычна пазбаўлены магчымасці самастойна кіравацца нормамі граматыкі, якімі цяжкімі ці неадназначнымі яны ні былі б, і змушаны рабіць выбар у вузкіх межах пазнак слоўнікавага артыкула, у большасці выпадкаў безварыянтны нават для мнагазначных назоўнікаў*. З пашырэннем утрыравана-перабольшанага разумення паняцця нарматыўнага слоўніка**, перадусім на сферу хутказменнай семантыкі слова і рэестравага складу, зарадзіўся, як падаецца аўтару, і атрымаў сваё развіццё канфлікт паміж шматлікімі суб'ектамі моўнай практыкі – у першую чаргу журналістамі, рэдактарамі выдавецтваў, пісьменнікамі, навучэнцамі – і часткай лексікографаў і граматыстаў. Менавіта вызначэнне статусу формаў роднага склону з канчаткамі *-а* / *-у* знаходзіцца ў цэнтры зоны супярэчнасцей. Відавочна, такі стан рэчаў выклікае заклапочанасць у лінгвістычным супольніцтве, якая атрымлівае выхад у канстатацыях ад кансерватыўна-ахоўнага характару, "…тыя ж, хто карыстаецца беларускай мовай… павінны прытрымлівацца ўжо вызначаных правіл, асабліва, калі гэтыя правілы ясныя, як божы дзень" [1], – да трывожна-аналітычных, – "…былі спробы стварыць пэўнага роду нарматыўныя граматыкі, але яны, на жаль, не вытрымліваюць крытыкі, бо супярэчлівыя, непадстаўныя ў сваіх аргументацыях і маюць вельмі шмат апанентаў, як з боку кансерватыўна настроеных лінгвістаў, так і наватараў у моваznаўчай навуцы" [7], – ці ўзважана-падагульняльных, – "…узяць і раскласці ўсё ў слоўніках раз і назаўсёды можна толькі для так званых мёртвых моў накшталт лацінскай… слоўнік – [гэта] фатаграфія пэўнага стану: пяцітомны ТСБМ у шасці кнігах – гэта фатаграфія мовы 80-х гадоў, прычым з канцэпцыяй 50 – 60-х. І заганяць мову ў межы таго слоўніка, гэта ўсё адно, што патрабаваць ад чалавека, каб ён быў такім жа, як 20 ці 30 гадоў таму" [8]. Адзначу, што аўтар таксама выказваўся пра неабходнасць утрымліваць у слоўнікавай справе баланс паміж літарай і духам граматычнай нормы [9].

На завяршэнне кароткага экскурсу ў перадгісторыю праблемы ў артыкуле змешчаны табліцы, якія ў схематызаваным выглядзе паказваюць эвалюцыю спроб размежаваць сферы ўжывання

---

* Варта параўнаць, напрыклад, падачу слоў *акт, тэст, этап* у розных выданнях БРС і РБС.

** Першая згадка нарматыўнага характару слоўніка змешчана ў прадмове да 2-га выдання "Беларуска-рускага слоўніка".

канчаткаў *-а* / *-у* ў назоўніках згаданага тыпу. Адпаведныя вытрымкі з фармулёвак, размешчаныя дзеля лепшай агляднасці ў змененым парадку і з пазіцыйнымі пазнакамі першасных тэкстаў, былі ўзяты з наступных крыніц: БП-29 – Лёсік Я. Беларускі правапіс. – Менск: Белдзяржвыд, 1929; АС-48 – Суднік М., Лобан Н. Арфаграфічны слоўнік. – Мінск: АН БССР, 1948; ГБМ-62 – Граматыка беларускай мовы. – Т. 1. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962; БГ-85 – Беларуская граматыка. – Ч. 1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985; АС-90 – Суднік М., Лобан Н. Арфаграфічны слоўнік. – Мінск: АН БССР, 1990; КГБМ-2007 – Кароткая граматыка беларускай мовы. – Ч. 1. – Мінск: Беларус. навука, 2007.

Азначым пры гэтым, што змяненні, унесеныя рэформай правапісу ў 1934 г. і ўдакладненнямі згодна з Пастановай урада ад 21 мая 1957 г., цалкам дакументаваны адпаведна ў АС-48 і АС-90.

Ужо беглы агляд табліц 1, 2 паказвае, што на працягу перыяду, ахопленага згаданымі крыніцамі, асноўным прынцыпам размежавання канчаткаў *-а* і *-у* з'яўляецца семантычны прынцып. Можна канстатаваць, што зыходныя крытэрыі размежавання (БП-29) палягалі на лініях “канкрэтнасць – абстрактнасць / рэчыўнасць”, “адзінкавасць / непадзельнасць – зборнасць”, пры допушчэнні раўнапраўнага ўжывання канчаткаў *-а* / *-у* ў змешаных або няпэўных выпадках (*камітэта – камітэту, летапіса – летапісу*) [2], некаторых канкрэтных назоўнікаў, асабліва ў канструкцыях з прыназоўнікамі ***з, да, каля*** і інш. (*з моста* і *з мосту, з Берліна* і *з Берліну*) [3], ці нават прамым прадпісванні канчатка *-у* (назоўнікі іншамоўнага паходжання – *факту, кантракту, фундаменту* і інш. [4], словы, якія цяжка падвесці пад які-небудзь выпадак [2]). У разрад выключэнняў Я. Лёсік залічыў назвы танцаў (*казака, вальса* і інш.). Такім чынам, у цэлым прадугледжвалася пэўная ступень свабоды ў выбары канчаткаў *-а / -у*, што выглядае ўвогуле апраўданым, улічваючы спрошчана-арыентавальны характар прапанаваных дарэформавых класіфікацый.

Першая паслярэформавая класіфікацыя згодна з Правіламі правапісу 1933 г. [10], у асноўным захаваўшы спрошчанасць класіфікацыйных падыходаў, радыкальна звузіла сферу ўжывання канчатка *-у* і фактычна ўвяла прынцып: “заўсёды канчатак *-а*, калі не прадпісаны канчатак *-у*”. Тым самым завяршылася стварэнне жорсткай схемы вызначэння канчаткаў *-а / -у*, у якой улік кантэксту карыстальнікам-моўцам абмежаваны палярным выбарам: “адзінкавы прадмет / расліна ці матэрыял / зборнае паняцце”. Адначасова былі створаны шматлікія “патэнцыйна канфліктагенныя зоны” – крыніцы будучых адхіленняў



***Фёдар Антонавіч Піскуноў*** *– даследчык мовы. Закончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1971). Супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута НАН Беларусі. Стваральнік лінгвістычнай часткі праграмы праверкі беларускай арфаграфіі “Літара” (2004), электроннага слоўніка беларускай мовы “Парадыгма” (2009).*

і разнабояў – як вынік аддалення ад традыцый народнага маўлення і імклівага ўзбагачэння семантыкі назоўнікаў з цягам грамадскага і тэхнічнага прагрэсу. Пазалінгвістычныя меркаванні ідэалагічнага характару мелі пабочным вынікам кадыфікацыю канчатка *-а* для шматлікай групы абстрактных назоўнікаў, пераважна з суфіксам *-ізм*, дзеля ўтварэння аднастайнага лексічнага поля для ключавога ядра *сацыялізм, камунізм, марксізм* і інш. (гл. табліцу 1, п. 5 / АС-48, §§ 49г, 49е). Карэкціроўка правапісу 1957 г., якая абмежавалася толькі перавызначэннем згаданай лексіка-семантычнай групы (гл. табліцу 2, пп. 1, 2 / АС-90, § 74, пп. 1, 2), прынцыпова не змяніла сітуацыю.

На грунце аналізу тэкставых матэрыялаў з уласнай электроннай базы аўтара, інтэрнэтмасіваў і актуальных слоўнікавых выданняў мы робім спробу абагульнення і класіфікацыі праблем ва ўжыванні канчаткаў *-а* / *-у*, абапіраючыся на ніжэйпададзеныя табліцы 1 і 2.

**Да статусу канчаткаў *-а* (*-я*) (табліца 1).**

Разгляд азначэнняў, схематычна пададзеных у табліцы 1, і зварот да адпаведных месцаў у крыніцах прыводзіць да высновы, што прапанаваныя схемы характарызуюцца празмернай спрошчанасцю, застыласцю і пэўнай унутранай супярэчлівасцю. Адмыслова-селектыўны падбор слоў-прыкладаў для кожнага класіфікацыйнага крытэрыю не можа прыхаваць таго факта, што існуе шэраг лексем, якія “з нацяжкай” пасуюць адведзеным для іх класіфікацыйным ячэйкам, больш за тое, могуць небеспадстаўна адпавядаць крытэрыям для канчаткаў *-у* (*-ю*). Як вядома з юрыспрудэнцыі, любую дваістую інтэрпрэтацыю закона прынята лічыць на карысць законапаслухмянага грамадзяніна. На жаль, моўца-карыстальнік знаходзіцца ў тым большай невыгодзе, чым больш пільна і дапытліва ён ставіцца да вывучэння роднай мовы. У пошуках развязкі пытання, хоць бы пра форму роднага склону, прыкладам, для слоў *варыянт, праект* ці *план*, ён знойдзе (гл., напрыклад,

**Табліца 1. Звод класіфікацыйных азначэнняў для назоўнікаў з канчаткамі роднага склону -*а* (-*я*).**

| | Канчатак -*а* (-*я*) маюць назоўнікі, якія (што) абазначаюць | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **БП-29** | **АС-48** | **ГБМ-62** | **БГ-85** | **АС-90** | **КГБМ-2007** |
| **1.** | **Правіла 26, п. 1**<br>прадмет жывы | **§ 49 а)**<br>жывыя прадметы або што намі ўяўляюцца як жывыя прадметы | **§ 61 а)**<br>асобы і істоты | **§ 146**<br>жывых істот | **§ 74, п. 1**<br>жывыя прадметы або што намі ўяўляюцца як жывыя прадметы | **с. 130, п. 1**<br>агульныя і ўласныя назвы людзей (за выключэннем зборных назваў тыпу *люд – люду*, *народ – народу*), а таксама назвы жывёл |
| **2.** | **Правіла 26, п. 2**<br>прадмет нежывы, але непадзельны, г. зн. такі, часць якога не можа назвацца імем цэлага прадмета | **§ 49 б)**<br>нежывыя, але непадзельныя прадметы, г. зн. такія, частка якіх не можа называцца імем цэлага прадмета | **§ 61 б)**<br>канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія паддаюцца лічэнню | **§ 146 а)**<br>канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія паддаюцца лічэнню | **§ 74, п. 2**<br>нежывыя, але непадзельныя прадметы, г. зн. такія, частка якіх не можа называцца імем цэлага прадмета | **с. 130, п. 2**<br>канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія паддаюцца лічэнню, або іх часткі |
| | **Правіла 26, п. 3**<br>названні часцей цела | **§ 49 д)**<br>назвы частак цела | **§ 61 е)**<br>часткі цела чалавека або жывёл | **§ 146 б)**<br>органы і часткі цела чалавека, жывёлы | | **с. 130, п. 3**<br>органы і часткі цела чалавека, жывёлы |
| **3.** | | **§ 49 в)**<br>назвы устаноў, грамадскіх і гаспадарчых арганізацый, прадпрыемстваў, населеных пунктаў, вайсковых падраздзяленняў і часцей | **§ 61 в)**<br>грамадскія арганізацыі, прадпрыемствы, установы | **§ 146 д)**<br>грамадскія арганізацыі, прадпрыемствы, установы, вайсковыя падраздзяленні | **§ 74, п. 3**<br>назвы устаноў, грамадскіх і гаспадарчых арганізацый, прадпрыемстваў, населеных пунктаў, вайсковых падраздзяленняў і часцей | **с. 130, п. 6**<br>грамадскія арганізацыі, прадпрыемствы, установы, вайсковыя падраздзяленні |
| | | | **§ 61 г)**<br>геаграфічныя і астранамічныя паняцці, населеныя пункты, мясцовасці і г. д. | **§ 146 е)**<br>агульныя і ўласныя назвы населеных пунктаў і мясцовасцей, геаграфічныя і астранамічныя паняцці | | **с. 131, п. 8**<br>агульныя і ўласныя назвы населеных пунктаў і мясцовасцей, геаграфічныя і астранамічныя назвы, гідронімы |
| **4.** | **Правіла 26, п. 4**<br>названні месяцаў | **§ 49 д)**<br>назвы… месяцаў, мер, грошай | **§ 61 д)**<br>пэўныя прамежкі часу, меры вагі, грашовыя адзінкі | **§ 146 в)**<br>меры даўжыні, плошчы, вагі, аб'ёму, акрэсленага часу, а таксама назвы месяцаў, дзён тыдня, грашовых і іншых адзінак | **§ 74, п. 4**<br>адзінкі розных вымярэнняў | **с. 130, п. 5**<br>меры даўжыні, плошчы, вагі, аб'ёму, акрэсленыя адрэзкі часу, грашовыя і іншыя адзінкі вымярэння |
| | **Правіла 26, п. 5**<br>названні мер, грошай, танцаў | **§ 49 е)**<br>вузканавуковыя тэрміны, спартыўныя і ваенныя назвы, назвы танцаў | **§ 61 ж)**<br>некаторыя канкрэтныя паняцці | **§ 146 г)**<br>навуковыя ці тэхнічныя тэрміны або канкрэтныя паняцці | **§ 74, п. 5**<br>назвы танцаў, гульняў, геаметрычных цел і фігур і ўсе іншыя назоўнікі, што абазначаюць непадзельныя паняцці навуковага, спартыўнага і іншага характару | **с. 130, п. 4**<br>навуковыя і тэхнічныя тэрміны |
| | | | | **§ 146 ж)**<br>назвы танцаў, народных і спартыўных гульняў, картачных гульняў | | **с. 130, п. 7**<br>назвы танцаў, народных, спартыўных і картачных гульняў |
| **5.** | | **§ 49 г)**<br>назвы сацыяльных фармацый, тэорый, вучэнняў, літаратурных і палітычных плыняў і стыляў мастацтва[1] | | | | |
| | | **[§ 49 е)]**<br>хімічныя элементы і злучэнні[2] | | | | |

[1] Акрамя назваў хвароб.

[2] Могуць ужывацца і з канчаткам -*у* ў залежнасці ад кантэксту.

КГБМ-2007) з першага погляду пацверджанне свайго выбару на карысць *-у*, але ў канцы сутыкнецца з нязменным "нарматыўным з'яўляецца…" ці парадай карыстацца слоўнікам. Узнікае парадокс: аўтары граматык, больш аператыўных, гнуткіх па сваёй прыродзе выданняў, пазбягаюць развязвання і прадухілення праблем, апелюючы да больш інерцыйных слоўнікаў. Ці ж не дадае гэта жыўлення міфу аб цяжкасці вывучэння беларускай мовы, ці не падмацоўвае працэсы згортвання беларускамоўнага навучання з ініцыятывы бацькоў школьнікаў? І ўжо зусім неканструктыўнымі з'яўляюцца спробы дакарання майстроў пяра, між іх Васіля Быкава, Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана Навуменкі, у парушэнні нормаў, як гэта мае месца ў матэрыяле аднаго з аўтараў КГБМ-2007. Надышоў час аналізу і пераасэнсаванняў на карысць роднай мовы, яе прыхільнікаў і карыстальнікаў.

У далейшым матэрыяле мы зробім спробу ў межах існуючай класіфікацыйнай схемы (яе грунтоўнае дасканаленне – задача будучыні) прааналізаваць некаторыя аспекты варыянтнасці флексій *-а* / *-у* з упорам на неабходнасць магчымасці выбару для карыстальніка пры відочнай ***наяўнасці дваістасці тлумачэнняў*** ці ***ў кантэкстна абумоўленых выпадках***. Такое дэлегаванне адказнасці карыстальніку (рэдактару, карэктару, студэнту), што кіруецца ***арыенцірнай граматычнай схемай***, непазбежна ва ўмовах хутказменнай моўнай сітуацыі, выкліканай імклівым навукова-тэхнічным і грамадскім развіццём. Заклікі знаходзіць развязкі праблем у т. зв. нарматыўных слоўніках контрпрадуктыўныя і зыходзяць з няправільнай трактоўкі самога паняцця нарматыўнасці. Праблемы адставання слоўнікаў ад моўных рэалій, у тым ліку ў разрэзе разгляданай тэмы [11], узгадваліся неаднойчы.

Абмяркуем некаторыя аспекты ўжыванняканчаткаў *-а* (*-я*) у парадку, зададзеным нумарацыйнай калонкай табліцы 1.

**І. Жывыя істоты.** Устаноўленым моўным фактам можна лічыць, што назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць жывых істот, у родным склоне адзіночнага ліку заўсёды маюць канчатак *-а* (*-я*) як у сучаснай нацыянальнай мове, так і на ўсіх этапах развіцця мовы беларускай народнасці [4].

**ІІ. Канкрэтныя злічальныя назоўнікі.** Абстрагуючыся ад вядомага выключэння (*твару*) і ўстойлівых зваротаў (*хоць кроў з носу, баба з возу, без даху над галавой*), зазначым, што многія назоўнікі з групы злічальных канкрэтных прадметаў рэчаіснасці маюць даўнюю традыцыю ўжывання з канчаткамі *-у* побач з *-а*. Шматлікія прыклады-ілюстрацыі, узятыя ад старадаўніх часоў да 60-х гг. мінулага стагоддзя, прыведзены ў манаграфіі М. Жыдовіч [4]. Асабліва падкрэслена пашыранасць у гаворках даследаванага перыяду ўжывання канчаткаў *-у* (*-ю*) у словаспалучэннях з прыназоўнікамі ***з* (*са*)*, да, каля* (*ля*)*, ад*** і інш., што будзем улічваць у далейшым.

1. Заўважна, што ва ўсіх разгледжаных крыніцах (ГБМ-62, БГ-85; КГБМ-2007) у якасці ілюстрацыйных прыкладаў фігуруе амаль нязменны набор слоў: *агурок, бурак, яблык, айсберг, курган, стог, маятнік, гадзіннік, рычаг, руль, тралейбус, камбайн, каўнер, касцюм, вулей*. Пакідаючы па-за каментарыем рэпрэзентатыўную вартасць гэтага ілюстрацыйнага раду, адзначым, што агульным для ўсіх прыкладаў з'яўляецца ***акрэсленасць, зрокава ўспрымальная ці ўяўная, знешніх формаў фізічнага аб'екта***. І гэтую асаблівасць належала б падкрэсліць, надаўшы дадаткова ўзбуйненую тэзаўруальную класіфікацыю. Па прыкладзе складальнікаў украінскага слоўніка-даведніка [12] сюды можна ўключыць наступныя ўдакладненні:

– назвы прадметаў адзення і хатняга ўжытку: *брыль, касцюм, бот, сервант, дыван, падсвечнік, настольнік, аловак* і г. д.;

– аздабленні і ювелірныя вырабы (акрамя значэнняў зборнасці і матэрыялу): *бранзалет, персцень*; *рубін, брыльянт* і г. д.;

– музычныя інструменты: *горн, бубен, арган* і г. д.;

– назвы і азначэнні паліграфічных выданняў: *слоўнік, задачнік, буклет, раман, часопіс, альманах, бестселер, манускрыпт* і г. д.;

– апараты, прылады і іх дэталі: *камп'ютэр, тэрмометр, рычаг, маятнік* і г. д.;

– машыны, механізмы і іх кампаненты: *станок, тралейбус, камбайн, руль* і г. д.;

– жылыя і гаспадарчыя збудаванні, іх канструкцыйныя ці архітэктурныя кампаненты: *будынак, гараж, млын, свіран, кабінет, калідор, эркер, карніз, парог* і г. д.;

– некаторыя стравы і кулінарныя вырабы: *біток, шніцэль, біфштэкс, кекс* і г. д.;

– назвы дрэў (акрамя значэнняў зборнасці і матэрыялу), грыбоў, некаторых, пераважна дэкаратыўных, раслін: *дуб, мухамор, гладыёлус, цюльпан* і г. д.

Спіс адкрыты для прадаўжэння. Сусветна вядомыя тэзаўрусы, напрыклад англійскі [14], – добрыя крыніцы для пашырэнняў. Могуць быць прапанаваны і такія падпункты:

– кампактныя формы захавання ці ўпакоўкі матэрыялаў: *рулон, пакунак, пачак, скрутак, хатуль, бурт, стог, капец* і г. д.;

– часткі цэлага цела: *кавалак, фрагмент, адрэзак, адрэз, зрэзак, уцінак, акравак, шматок, скурат* і г. д.;

– дакументы: *дыплом, пашпарт, пропуск, акт, пратакол, дэкрэт* і г. д.

Сучасныя камп'ютэрна-лінгвістычныя тэхналогіі дазваляюць распрацаваць тэзаўрусы з любой ступенню тэматычнага драбнення. Для ўсведамлення аб'ёму праблемы нагадаю, што ў "Слоўніку беларускай мовы" пад рэдакцыяй М. Бірылы пры агульным рэестры каля 118 тыс. слоў утрымліваецца 12 501 назоўнік з магчымасцю варыянтнага канчатка, у тым ліку з канчаткам *-а* (*-я*) блізу 6500 слоў.

2. Пэўныя назоўнікі, што звычайна не прыводзяцца ні ў адной з класіфікацыйных ячэек, пастаянна фігуруюць у каментарыях да класіфікацыйнай схемы як узоры адхілення ад літаратурнай нормы: *агарод* / *гарод*, *плот*, *лабірынт*, *водаправод*. Больш за тое, існуюць паказальныя прыклады "вандроўных" слоў, як *бераг*: АС-48 – *берага*, але: *з берагу*; ГБМ-62, БГ-85 – *берагу*, АС-90 – *берага*, КГБМ-2007 – *берага*, БРС-2002 – *берага*. Затое "пашанцавала" блізкасэнсавым словам *узмежак*, *узлесак*, якія захавалі свае канчаткі *-у*. Аналагічна з *агароджамі*: БРС-2002 – *плота*, *плятня*, але *тыну*, *частаколу*. Практычныя работнікі – карэктары, педагогі – добра абазнаны ў такіх зусім не рэдкіх выпадках. Нягледзячы на ціск з боку слоўнікаў, сучасныя карыстальнікі схільны зыходзіць са сваіх меркаванняў, выкарыстоўваючы канчатак *-у* (*-ю*) побач з *-а* (*-я*) ці нават аддаючы перавагу *-у* (*-ю*). Для атрымання колькасных дадзеных звернемся да беларускамоўнага інтэрнэту, ёмістасць якога ва ўсіх даменах складае, паводле ацэнак аўтара, каля 3,77 млн. старонак, у тым ліку ў нацыянальным дамене .by – каля 0,66 млн*.

| Словазлучэнне | Колькасць старонак у інтэрнэце |
|---|---|
| *да плота / плоту; з плота / плоту; каля плота / плоту* | 1140/1390; 678/1160; 562/628 |
| *з лабірынта / лабірынту* | 75/22 |
| *ад берага / берагу; з таго берага / берагу; каля берага / берагу* | 3430/1230; 184/8200; 524/163 |
| *з гарода / гароду; свайго гарода / гароду* | 252/121; 5/172 |
| *з агарода / агароду; свайго агарода / агароду* | 506/126; 107/85 |
| *няма водаправода / водаправоду* | 8/10 |

Ва ўсіх падобных выпадках назоўнікі характарызуюцца выражанай неакрэсленасцю, несувымернасцю ці няпэўнай працягнутасцю формаў у адным ці двух вымярэннях, і ў такіх якасцях здольны выступаць як у полі асобных аб'ектаў, так і ў функцыі носьбітаў пэўных якасцей, уласцівасцей, дзеянняў ці стану, іншымі словамі, у пэўнай ступені адцягненых паняццяў. Выбар варыянта канчатка ў гэтым разе нярэдка з'яўляецца асэнсаваным выбарам выяўленчага сродку, адпаведнага ўяўленням аўтара. Узгадаем просьбу Я. Скрыгана, накіраваную ў лісце да Х. Жычкі як выдаўца: «…будуць часам парушэнні супраць унармаванасці: напр., напісанне ў родным склоне "твару", "ганку", бо пісаць іх інакш – "твара", "ганка" – у мяне не падымаецца рука, нідзе так не гавораць…» [14]. Варта падкрэсліць, што граматысты даўнейшага часу Я. Лёсік (1928) [2], А. Багдановіч [3], Ц. Ломцаў (1951) [15] азначалі магчымасць пабочнага ўжывання канчаткаў *-у* (*-ю*), асабліва з прыназоўнікам ***з***, а М. Жыдовіч (1969) канстатавала рад пераходных з'яў і прыйшла да абагульнення: "У выпадках, дзе злучаецца прыназоўнік з абстрактным або ***блізкім да яго па значэнню назоўнікам*** (вылучана намі. – ***Ф. П.***), звычайна ўжываецца канчатак *-у*". Менавіта гэты факт адлюстраваны ў АС-48 для слова *бераг*, які праігнараваны ў далейшых выданнях дзеля дагматычна-спрошчанай граматычнай схемы. Наспела неабходнасць ***дэлегавання права*** выбару варыянтаў канчатка для назоўнікаў вышэйпамянёнай групы, як і ўвогуле ***ва ўсіх выпадках дваістасці***, карыстальніку мовы. Будучыя слоўнікі (арфаграфічныя ці перакладныя) павінны ясна і недвухсэнсоўна давесці да карыстальніка ідэю (найбольш пажадана ў прадмовах) немагчымасці прадугледзець усе звівы кантэксту ў сціслых слоўных артыкулах. У такіх выпадках неабходна перайсці да падачы канчаткаў роднага склону ў двух варыянтах. Пазіцыя складальнікаў можа быць удакладнена формуламі кшталту: "-а *і* (*радзей*) -у", "-а *і* (*пераважна*) -у" ці нават "-а *і* (*у моўнай практыцы такс.*) -у" і г. д. Ва ўмовах, калі, па канстатацыі членкара НАН Беларусі прафесара А. Лукашанца, "…беларуская мова сёння займае ў грамадстве другараднае становішча…" [16], мы не можам упарта трымацца схем, адарваных ад былых традыцый народнага маўлення, без пагрозы беззваротнай страты нацыянальнай мовы. Адраджэнне беларускага узусу, перспектывы якога яшчэ захоўваюцца, расставіць усё па сваіх месцах.

3. Шэраг праблем выяўляецца пры аналізе слоўнікавых матэрыялаў у выпадку ўжывання варыянтнасці канчаткаў для дыферэнцыяцыі значэнняў назоўнікаў. На некаторыя характэрныя разнабоі ў падачы канчаткаў звярнуў увагу П. Жаўняровіч, зазначыўшы пры гэтым, што для "больш дакладнага тлумачэння ЛСВ [лексіка-семантычных варыянтаў] і фіксацыі адпаведных канчаткаў патрабуецца грунтоўнае вывучэнне

* Для параўнання: ёмістасць дамена Македоніі – 9,3 млн македонскамоўных старонак, ёмістасць дамена Латвіі – 34,5 млн латышскамоўных старонак, ёмістасць дамена Эстоніі – 71,9 млн эстонскамоўных старонак, ёмістасць дамена Украіны – 24,1 млн украінскамоўных старонак.

энцыклапедычнага значэння кожнага слова…” [11]. На жаль, у слоўніках з лёгкасцю знаходзяцца прыклады як ігнараванне полісемізму лексем, так і жорсткага прывязвання назоўніка да адзінага варыянта канчатка. Так, складальнікі БРС-2002, падаючы словы *акт, пратакол, праект, варыянт* толькі з канчаткам *-а*, ігнаруюць адцягненыя значэнні (*агідны акт забойства, дыпламатычны пратакол, легкадумныя праекты, рэальны варыянт*). Цяжка знайсці рацыянальнае тлумачэнне, чаму назоўнік *факт* з канчаткам *-а* (ці толькі з канчаткам *-а*) або чаму ў розных выданнях аднаго аўтарскага калектыву фігуруюць словы-перабежчыкі *тэст, этап* (фіксуюцца то з адным, то з другім канчаткам). Займальная для разважанняў падача ў тым жа месцы раду “*дрот, -ту*; *кабель, -лю*; *канат, -та*; *трос, -са*”. Вядома, з гледзішча шафёра ці матроса, правамерна разглядаць словы *канат* і *трос* як прылады (*швартовы канат*, або ў прафесійнай мове рачнікоў – *канец*; *буксіравальны трос*, звычайна з двума крукамі), але ж варта ўлічыць і меркаванні працаўнікоў дротавалачыльных, каната- і тросаробчых вытворчасцей, якія выпрабляюць гэты неабходны матэрыял і адгружаюць яго ў вялізных бухтах ці барабанах. Прыводзячы ў якасці ўзораў гэтыя калізіі, мы яшчэ раз падкрэсліваем неабходнасць пераасэнсавання сістэмы падачы канчаткаў роднага склону ў слоўніках. Карыстальнік павінен усведамляць, што ў гэтай сферы роля слоўніка мае быць *толькі дарадчай*, бо жывая мова пастаянна спараджае новыя словы і значэнні, якія ўбудоўваюцца ў лексічную сістэму толькі праз пэўны перыяд адаптацыі.

**III.** Некаторыя назоўнікі гэтай групы, што могуць быць аднесены да групы геаграфічных паняццяў, знаходзяцца ў зоне ўплыву канчаткаў *-у* (*-ю*), асабліва калі ўжываюцца ў адцягненых значэннях.

| **Словазлучэнне** | **Колькасць старонак у інтэрнэце** |
|---|---|
| *з акіяна / акіяну* | 124/476 |
| *з кантынента / кантыненту* | 83/166 |

У былых народных гаворках паўсюдна рэгістравалася [4] ужыванне канчатка *-у* (*-ю*) у спалучэннях многіх назоўнікаў з прыназоўнікамі, асабліва ***з*** (***са***), ***да***, ***каля*** (***ля***), ***ад*** і іншымі: *з камсамолу, з Мінску, з Дзяржынску, з заводу, з гораду, з сельсавету*. Разнастайнасць канчаткаўназіраецца [4] і ў ранейшых выданнях беларускіх празаікаў і паэтаў: *З нізкага берагу дно акіяну вачам недаступна* (М. Багдановіч. Выбр. творы; 1952); *З атраду прыбег вартавы* (М. Танк. Выбр. творы; 1952); *Коні стопчуць, бегучы з выгану* (К. Крапіва. Выбр. творы; 1947); *Вароты ад гораду ціха рыпнулі* (К. Крапіва. Выбр. творы; 1947).

**IV.** У гэтую групу ўваходзяць назоўнікі з шырокім спектрам класіфікацыйных прыкмет, таму яны вымагаюць больш дакладнага тэзаўруальнага падзелу. Ва ўсіх выпадках, калі назіраюцца істотныя прыкметы суадноснасці са значэннямі працэсуальнасці ці зборнасці, выбар канчатка павінен вызначацца карыстальнікам у адпаведнасці з разуменнем кантэксту.

1. У падгрупе тэрмінаў мэтазгодна ***звузіць*** сферу выключнага ўжывання канчатка *-а* (*-я*), абмежаваўшыся, напрыклад, фармулёўкамі, блізкімі да прыведзеных у пункце II.1:

– элементарныя часціцы і іх фрагменты, фрагменты малекул: *атам, нуклон, кварк, фатон, нейтрон, пратон* і г. д.; *радыкал, іон, катыён, аніён, метыл, бутыл, гідраксіл* і г. д. Заўвага: назвы хімічных радыкалаў, што ўваходзяць у склад хімічных рэчываў, маюць выключна канчатак *-у* (*-ю*). Напрыклад, у хімічнай тэрміналогіі: *замена метыла на гідраксіл*, але: *дабавіць 50 мл хлорыстага метылу*;

– назвы геаметрычных фігур, іх фрагментаў і элементаў у іх прамых значэннях: *куб, квадрат, эліпс, авал, круг, ромб, радыус, сегмент, вугал* і г. д.;

– матэматычныя паняцці ў іх прамых значэннях, трыганаметрычныя функцыі: *аргумент, інтэграл, дыферэнцыял, множнік, складнік, сінус, касеканс* і г. д.;

– лінгвістычныя паняцці ў іх прамых значэннях: *дзейнік, займеннік, гук, санант, умляўт, антонім, гідронім* і г. д.;

– назвы класаў раслін па арэальнай прыкмеце, назвы дыскрэтных частак раслін: *сукулент, кальцыяфоб, гідрафіт, спарафіт, ксерафіт, геліяфоб, песцік, лісцік, корань* і г. д.;

– назвы дрэў (акрамя аднайменных назваў матэрыялаў і значэнняў зборнасці), грыбоў: *падасінавік, грузд, дуб, клён* і г. д.

2. Падлягаюць пераасэнсаванню тэрміны і паняцці, што выражаюць фізічныя ці хімічныя працэсы, розныя віды рухаў, фінансавых ці іншых аперацый, характарыстыкі стану і пад. Будучыя слоўнікі павінны пазбавіцца відочных супярэчнасцей, галаваломных “чаму”. Чаму *цугцвангу, цэйтноту, дэбюту, гамбіту*, але *шаха, мата, пата*, чаму *парашутызму, планерызму*, але *віндсёрфінга* і г. д. Безумоўна, асноўным варыянтам ва ўсіх падобных выпадках (маю на ўвазе таксама назвы гульняў і танцаў) павінен быць канчатак *-у* (*-ю*). Жангляванні азначэннямі дзеля падпарадкоўвання таго ці іншага слова ў пажаданую класіфікацыйную ячэйку, наданне уніфікацыі канчаткам могуць даць толькі адваротны чаканаму вынік: блытаніну і дэзарыентацыю навучэнца. Здаровы сэнс карыстальніка дапаможа зрабіць адпаведны кантэксту выбар. ►

**Табліца 2. Звод класіфікацыйных азначэнняў для назоўнікаў з канчаткамі роднага склону -*у* (-*ю*).**

| Канчатак -*у* (-*ю*) маюць назоўнікі, якія (што) абазначаюць | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **БП-29** | **АС-48** | **ГБМ-62** | **БГ-85** | **АС-90** | **КГБМ-2007** |
| **1.** | **Правіла 26, п. 1** названні матэрыялаў і наогул нежывых прадметаў, часць каторых наз. імем цэлага прадмета | **§ 50 а)** зборныя прадметы, матэрыял, рэчывы шырокага ўжытку і наогул прадметы, частку якіх можна назваць іменем цэлага прадмета; назвы страў, напіткаў | **§ 61, п. 2а)** рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць разнастайныя рэчывы, матэрыялы, у тым ліку хімічныя элементы і злучэнні | **§ 146, п. 2** рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць розныя рэчывы, масу, матэрыялы, хімічныя элементы і злучэнні, тканіны, некаторыя віды ежы, лякарствы і пад. | **§ 75, п. 1** зборныя прадметы, матэрыялы, рэчывы і наогул прадметы, часткі якіх можна назваць імем цэлага прадмета | **с. 131, п. 2** матэрыяльна-рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць уласна рэчывы, хімічныя элементы, матэрыялы, прадукты харчавання, лекі і пад. |
| | **Правіла 26, п. 3** прадметы зборныя | | **§ 61, п. 3а)** назоўнікі са зборным значэннем | **§ 146, п. 3** назоўнікі са зборным значэннем | | **с. 131, п. 3** назоўнікі са зборным значэннем |
| **2.** | **Правіла 26, п. 2** разумовыя паняцці | **§ 50 в)** абстрактна-разумовыя паняцці, прыродныя з'явы, хваробы, а таксама назоўнікі аддзеяслоўныя | **§ 61, п. 1а)** абстрактна-разумовыя паняцці або адцягненыя якасці, прыметы, уласцівасці | **§ 146, п. 1а)** абстрактна-разумовыя паняцці, адцягненыя якасці, прыметы і пад. | **§ 75, п. 3** разумовыя паняцці, грамадскія фармацыі, навуковыя тэорыі, грамадскія і навуковыя плыні, розныя адчуванні, дзеянні, працэсы, стан, уласцівасці | **с. 131, п. 1а)** абстрактна-разумовыя паняцці (у тым ліку назвы грамадска-палітычных, эканамічных, рэлігійных і іншых фармацый і напрамкаў); адцягненыя якасці, прыметы і пад. |
| | | | **§ 61, п. 1г)** грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя і навуковыя плыні, навуковыя тэорыі і інш. | **§ 146, п. 1г)** грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя плыні, навуковыя тэорыі | | |
| | | | **§ 61, п. 1б)** працэсы, дзеянні, стан, розныя адчуванні, пачуцці | **§ 146, п. 1б)** дзеянні, працэсы, стан, розныя адчуванні, пачуцці | | **с. 131, п. 1б)** дзеянні, працэсы, стан, розныя адчуванні, пачуцці і пад. |
| | | | | **§ 146, п. 1г)** розныя захворванні | | розныя захворванні |
| | | | **§ 61, п. 1д)** з'явы прыроды, стыхійныя падзеі, бедствы | **§ 146, п. 1е)** з'явы прыроды, стыхійныя бедствы | **§ 75, п. 4** з'явы прыроды | **с. 131, п. 1д)** з'явы прыроды, стыхійныя бедствы, розныя падзеі ў грамадскім жыцці |
| | | | | **§ 146, п. 1ж)** розныя падзеі ў грамадскім жыцці | | |
| | | **§ 50 б)** прасторавыя паняцці | **§ 61, п. 1в)** напрамкі ў прасторы, месца, форму, памер, час і інш. | **§ 146, п. 1в)** напрамкі ў прасторы, месца, а таксама неакрэсленыя прамежкі часу | **§ 75, п. 2** прасторавыя паняцці | **с. 131, п. 1в)** розныя формы прасторы, месца, а таксама неакрэсленыя прамежкі часу |
| **3.** | **Правіла 26, п. 4** іменнікі чужаземнага пахаджэння | | | | | |

► 

| **Словазлучэнне** | **Колькасць старонак у інтэрнэце** |
|---|---|
| *з футбола / футболу* | 68/582 |
| *любоў да футбола / футболу* | 130/1240 |
| *першага раунда / раунду* | 239/1380 |
| *першага тайма / тайму* | 1370/4190 |
| *са спектакля / спектаклю* | 989/576 |
| *з балета / балету* | 293/190 |
| *да танца / танцу* | 427/149 |
| *да сюжэта / сюжэту* | 98/849 |
| *працяг дыялога / дыялогу* | 22/491 |
| *з твора / твору* | 889/623 |
| *гэтага варыянта / варыянту* | 225/1250 |
| *гэтага факта / факту* | 2140/5270 |

**Да статусу канчаткаў -*у* (-*ю*) (табліца 2).**

Пакольки першапачатковая "жорсткая" схема размежавання канчаткаў зыходзіла з прадпісання варыянта -*а* (-*я*), з адпаведнай канцэнтрацыяй няпэўных сітуацый, то сказанае вышэй суадносіцца з праблематыкай выбару канчаткаў -*у* (-*ю*). Гэта тычыцца як неўлічэння асноўных лексічных варыянтаў слова, так і няправільнага тлумачэння значэнняў слова, асабліва ўжытых у тэрміналагічных значэннях. Так, слова *гурт* выступае не толькі ў значэнні "натоўп", таму ў значэнні "група выканаўцаў" можа мець канчатак -*а*, а як тэхнічны тэрмін

"рэльефны паясок медаля, манеты" можа набываць толькі канчатак *-а*. Пра няправільнае аднясенне да рэчыўных назоўнікаў назваў хімічных радыкалаў ужо згадана вышэй. Шматлікія прыклады недакладнасцей у слоўніках аналагічнага тыпу прыведзены ў артыкуле П. Жаўняровіча [11]. Як самастойную праблему класіфікацыі азначым выбар канчаткаў назоўнікаў групы 2 (формы прасторы, месца) з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі *-ак* (*-ок*), *-ачак* (*-очак*). Прадпісанне канчаткаў *-а* (*-я*) у гэтым выпадку яўна выклікана ўплывам класіфікацыйных крытэрыяў ва ўкраінскай лексічнай сістэме ("невялікія па памеры плошчы") [12], уступае ў супярэчнасць з дваістай прыродай гэтых суфіксаў і дысаніруе з формамі блізкасэнсавых "*верасок, -ску*" ці "*чабарок, -рку*". На такую асаблівасць назоўнікаў гэтага тыпу было ўказана ў матэрыяле З. Ляксуцінай [17]. Да таго ж выключнае ўжыванне канчатка *-а* ў памяншальна-ласкальных формах не пацвярджаецца і ў працы М. Жыдовіч [4]. Выбар канчатка ў гэтых выпадках павінен быць кантэкстна-абумоўленым.

Завяршаючы кароткі агляд праблематыкі статусу канчаткаў *-а* (*-я*), варта азначыць заўвагу* выдання КГБМ-2007 на с. 135, якую зацытуем: "Заўвага: У сучаснай моўнай практыцы назіраецца тэндэнцыя да пашырэння канчатка *-у* (*-ю*) у формах роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду і замацаванне іх у якасці нарматыўных". Пакуль беглае азнаямленне з апошнімі слоўнікавымі выданнямі [18] не дазваляе канстатаваць істотныя зрухі ў адлюстраванні гэтай тэндэнцыі. Спадзяемся на наступныя?

Непакоіць, аднак, магчымасць пералёту "маятніка" ў другім напрамку. Ва ўкраінскім філалагічным супольніцтве некаторыя даследчыкі [12; 19] занепакоены аднясеннем назоўнікаў *том* (выданне) і *дуэт* у разрад зборных з абавязковым канчаткам *-у* (*-ю*). Спрашчэнне ad absurdum і шаблоны нарматызацыі спакушаюць. А таму варыянтнасць канчаткаў назоўнікаў роднага склону мужчынскага роду ва ўкраінскай мове – галаўны боль і тамтэйшых рэдактараў і вучняў [12; 19].

На завяршэнне варта яшчэ раз падкрэсліць, што варыянтнасць канчаткаў *-а* / *-у* назоўнікаў адносіцца да сферы апісальнай граматыкі і не нясе пагрозы расхіствання нормаў правапісу, бо такая варыянтнасць не можа быць прадметам правапіснай рэгламентацыі. Семантычны прынцып выбару адпаведнага канчатка павышае ролю карыстальніка ў вызначэнні належнага лексічна-семантычнага варыянта слова ў тэксце згодна з ужытым кантэкстам.

* Як падаецца, гэтая заўвага ўнесена непасрэдна перад здачай кнігі ў друк, бо змест вышэйпададзенага матэрыялу ў падраздзеле "Родны склон" (с. 130 – 134) ніяк не адпавядае зместу заўвагі.

**Спіс літаратуры**

1. **Арашонкава, Г. У.** З гісторыі нармалізацыі форм роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду і сучасная моўная практыка / Г. У. Арашонкава // Белорусская лингвистика, 2005. – Вып. 55. – С. 28 – 36.

2. **Лёсік, Я.** Граматыка беларускай мовы. Морфолёгія / Я. Лёсік. – Менск, 1927.

3. **Багдановіч, А. В.** Беларуская мова. Падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі / А. В. Багдановіч. – Менск : Белдзяржвыд, 1927. – 206 с.

4. **Жыдовіч, М. А.** Назоўнік у беларускай мове / М. А. Жыдовіч. – Мінск, 1969. – Ч. 1. Адзіночны лік.

5. **Русско-белорусский словарь** / под ред. Я. Коласа. – М., 1953.

6. **Беларуска-рускі слоўнік** / пад рэд. К. Крапівы. – Мінск, 1962.

7. **Іўчанкаў, В. І.** Айчыннаму мовазнаўству не стае фундаментальнасці і аналітызму / В. І. Іўчанкаў // Звязда. – 2009. – 23 мая.

8. **Цыхун, Г. А.** Мова мяняецца, бо жывая! / Г. А. Цыхун // Звязда. – 2009. – 8, 9 вер.

9. **Падказчык для канчаткаў** // Звязда. – 2009. – 21 ліп.

10. **Правапіс беларускай мовы.** – Мінск, 1934.

11. **Жаўняровіч, П.** *Парка* ці *парку*: Асаблівасці семантыкі назоўнікаў мужчынскага роду і яе ўздзеянне на канчаткі роднага склону / П. Жаўняровіч // Роднае слова. – 2004. – № 8. – С. 33 – 35; № 9. – С. 29 – 33.

12. **Лозова, Н. Є.** *Дзвона* чи *дзвону*? Або *-а* (*-я*) чи *-у* (*-ю*) в родовому відмінку. Словник-довідник / Н. Є. Лозова, В. Б. Фридрак. – Київ : Наукова думка, 2007.

13. **Roget, P. M.** Roget's Thesaurus of English words and phrases. Ed. 5 / P. M. Roget, B. Kirkpatrick, E. M. Kirkpatrick. – Longman, 1987.

14. **Жычка, Х.** Дбайнік чысціні роднай мовы / Х. Жычка // Слова пра Яна Скрыгана. Успаміны / уклад., прадм. Г. Скрыган. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2005. – С. 77 – 78.

15. **Ломтев, Т. П.** Белорусский язык / Т. П. Ломтев. – М. : Изд-во Московского университета, 1951. – 132 с.

16. **Настаўніцкая газета.** – 2009. – 19 вер. – С. 13.

17. **Ляксуціна, З. А.** Да пытання нармалізацыі форм роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду / З. А. Ляксуціна // Вопросы литературы и языка. – Мінск, 1968. – С. 134 – 141.

18. **Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы** / І. У. Кандраценя, Л. П. Кунцэвіч; Інстытут мовы і літаратуры НАНБ; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск : ТетраСистемс, 2009. – 704 с.

19. **Гречаниченко, Л. В.** Про деякі труднощі вживання родового відмінка в професійному технічному мовленні / Л. В. Гречаниченко, Н. П. Матулевська; наукова інтернет-конференція "Актуальні питання науки та практики: досягнення та перспективи", секція "Філологічні науки", 22 по 26 грудня 2008 року. – Рэжым доступу : www.pdaa.com.ua/np/publ20081.html.